


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

27 кастрычніка 2000 года

№ 43 (288)

Цана ў розніцу 90 рублёў

TV плюс


## Навіны рэгіёна

### Конкурсы: два ў адным

МАЛАДЗЕЧНА. 1 снежня ў Доме культуры чыгуначнікаў адбудуцца 2 гарадскія конкурсы: цырульнага майстэрства і фотамастакоў. Арганізатарам абодвух выступае гарвыканком.

Згодна з распараджэннем гарвыканкома, усе фотаздымкі, прадстаўленыя ў конкурсе, пераходзяць ва ўласнасць аргкамітэта. Кожны здымак павінен быць у рамцы. Гэта, як і здымкі, таксама за кошт фотамастакоў.

Пра работы цырульнікаў гаворка не ідзе.

**Аддзел інфармацыі.**

### Адкрыўся «Салон прыгажосці»

СМАРГОНЬ. На мінулым тыдні адкрыўся адрэстаўраваны дом прakату. У ім размесціцца прыватная цырульня "Салон прыгажосці", прыватныя ўрачы–стаматолагі. Цырульнікі прайшлі стажыроўку ў аддзяленні фірмы "Шварцкопф". Для дзяцей і інвалідаў, даручы, скідка ў 10%.

**Павел МАКЛЮК.**

### Новы дырэктар школы з'яўляецца штотыдзень

МАЛАДЗЕЧНА. За 2 тыдні ў дзвюх сярэдніх школах горада памяняліся дырэктары.

На мінулым тыдні аддзел адукацыі задаволіў заяву дырэктара СШ №9 **Вікенція Сіроты** пакінуць пасаду па ўласным жаданні. На яго месца прызначаная работнік апарату кіравання аддзела адукацыі **Вольга Лісоўская**. Вікенція Сіроту перавялі настаўнікам матэматыкі ў СШ №7.

У аўторак прыступіў да кіраўніцтва СШ №12 **Віктар Мураўёў** – былы намеснік дырэктара СШ №2. Яго папярэдніца **Валянціна Шульжыцкая** працуе загадчыцай метадычнага кабінета ў аддзеле адукацыі гарвыканкома.

**Аддзел інфармацыі.**

### Па зімовым часе

Міжведамасная камісія па часе і эталонных частотах нагадвае, што 29 кастрычніка ў краіне заканчваецца перыяд дзеяння "летняга" часу: у 3 ночы пераводзіце стрэлкі на адну гадзіну назад. А лепш, натуральна, перад тым, як класціся спаць.

### Доўгія выхадныя

У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў, рабочы дзень з панядзелка, 6 лістапада, перанесены на суботу, 11 лістапада г. г.

Такім чынам, большасць з нас будзе адпачываць 4, 5 (субота, нядзеля), 6 (перанесены дзень) і 7 лістапада (Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі).



У сувязі з памяншэннем пасажырапатоку **з 28 кастрычніка адмяняюцца па суботах** прыгарадныя цягнікі: Маладзечна–Багданаў адпраўленнем з Маладзечна ў 7-32, прыбыццём з Багданава ў 11-30; **Маладзечна–Параф'янаў** адпраўленнем у 7-19, прыбыццём у 11-38.

У сувязі з правядзеннем рамонтных работ **1 лістапада** прыгарадны цягнік **Маладзечна–Ліда** адпраўленнем з Маладзечна ў 8-29 ідзе толькі да ст. Юрацішкі і назад.



## Надвор'е на выхадныя

**Субота, 28 кастрычніка**

**Мінск**
1 – 5°С (уначы)
3 – 7°С (удзень)



**Вільня**
4°С (уначы)
10°С (удзень)



**Нядзеля, 29 кастрычніка**

**Мінск**
0 – 1°С (уначы)
2 – 10°С (удзень)



**Вільня**
0°С (уначы)
9°С (удзень)



■ ПРАБЛЕМА

# Навучэнцы штодзённа рызыкуюць жыццём

## 6 з 7 вучэбных інтэрнатаў непрыгодныя для пражывання

**МАЛАДЗЕЧНА. Не ведаюць іншагароднія навучэнцы ПТВ горада, што любая ноч для некаторых з іх можа стаць апошняй.**

З усіх навучальных установаў горада толькі ПТВ-87 мае інтэрнат, якому пажарныя службы далі дазвол на далейшую эксплуатацыю. У астатніх жыць нельга. Калі здарыцца пажар, асабліва ўначы, чалавечых ахвяры амаль непазбежныя.

У верасні інспектары дзяржпажнагляду праверылі ўсе вучэбныя корпусы і інтэрнаты. Мы папрасілі іх ацаніць па шкале ад 0 да 5 збудаванні па наступных крытэрыях: стан аўтаматычнай пажарнай сігналізацыі (АПС), электраправодкі, унутраных сродкаў пажаратушэння і шляхоў эвакуацыі.

Вось што атрымалася:

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА

Пры пажары ў інтэрнаце палітэхнікума давядзецца скакаць з другога паверха на асфальт.

| | Вучэбныя корпусы | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Палітэхнікум | ПТВ-тэхнікум | ПТВ-135 | ПТВ-87 | ПТВ-21 | Музвучылішча | Медвучылішча |
| АПС | 3 | 1 | 1 | 1 | 0 | 0 | 0 |
| Шляхі эвакуацыі | 3 | 4 | 3 | 4 | 3 | 4 | 4 |
| Стан электраправодкі | 4 | 4 | 3 | 4 | 3 | 4 | 4 |
| Унутраныя сродкі пажаратушэння | 3 | 4 | 2 | 4 | 2 | 4 | 4 |
| Сярэдні бал | 3,25 | 3,25 | 2,25 | 3,25 | 2,00 | 3,00 | 3,00 |
| **Месца** | 1-3 | 1-3 | 6 | 1-3 | 7 | 4-5 | 4-5 |

Пры ўсёй магчымай суб'ектыўнасці выстаўленых адзнак можна прасачыць становішча з супрацьпажарнай бяспекай у кожнай навучальнай установе. Але стан саміх вучэбных корпусаў, у цэлым, больш здавальняючы, чым у інтэрнатах. А калі ўлічыць, што навучэнцы ў корпусах устаноў знаходзяцца, у асноўным, у дзённы час, то першая табліца, мусіць, не мае вялікага значэння.

Куды больш сур'ёзная справа – стан інтэрнатаў. Студэнты там начуюць, таму наступная табліца заслугоўвае большай увагі.

Заканчэнне на 3-й стар.

## Экспрэс–апытанне маладзечанскай моладзі

# Калі вы апошні раз былі за мяжой?



**Ігар Абрамчык, СШ №8:**
– Разы чатыры быў у Балгарыі – адпачываў з бацькамі. Апошні раз ездзіў туды ўлетку 1998 года на 2 тыдні. Яшчэ быў у Расіі.

Усюды, дзе быў, заўважаў, што жыццёвы ўзровень там вышэйшы за беларускі.



**Віталь Мікулін, СШ №8:**
– Ужніўні ездзіў у Стакгольм на 24 дні. Спадабалася. Была б мая воля, там і жыць застаўся б. Два гады таму быў у Аўстрыі. Акрамя гэтага – у Расіі, Украіне, Польшчы, Германіі.

Беларусь па ўзроўні жыцця я паставіў бы на перадапошняе месца. Ніжэй за яе была б хіба толькі Украіна.



**Аляксандр Драпеза, САШМ:**
– Не быў нідзе за межамі Беларусі. А хочацца.



**Максім Піліпенка, САШМ:**
– Я і нарадзіўся ў Германіі, у партовым горадзе Ростак. У той час там жылі і працавалі бацькі. Калі атрымаю вышэйшую адукацыю, хачу вярнуцца туды на пастаяннае месца жыхарства і атрымаць нямецкае грамадзянства.

**Фотаапытанне падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ГРАМАДСКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ

# Гайды запрашаюць: далучайцеся!

Прыемная справа – успаміны пра цікавыя падзеі, сустрэчы, адкрыцці. Сапраўды, усё можна глыбей асэнсаваць і ацаніць толькі праз пэўны час. Усё часцей і часцей у памяці ўсплываюць дні, праведзеныя ў аздараўленча–адукацыйных летніках, якія падрыхтавалі, паспяхова правялі лідэры Асацыяцыі беларускіх гайдаў (АБГ) – дзіцячага грамадскага аб'яднання.

Нагадаю, "Асацыяцыя беларускіх гайдаў" зарэгістраваная ў Рэспубліцы Беларусь у 1993 годзе, з таго ж часу працуюць атрады гайдаў у Маладзечне і шэрагу іншых гарадоў Мінскай вобласці. Асаблівасць аб'яднання ў тым, што яно займаецца выхаваннем дзяўчынак ва ўзросце ад 6 да 16 год, дарослыя жанчыны ў якасці валанцёраў працуюць лідэрамі ў атрадах.

Галоўная мэта – дапамагчы дзяўчынкам адаптавацца ў пастаянна зменлівым свеце. На занятках з дарослым лідэрам (1 раз на тыдзень) пры дапамозе розных формаў і метадаў дзяўчынкі вучацца разумець сябе, свае пачуцці і патрэбы, набываюць навыкі будаваць свае адносіны з навакольнымі, асабліва, бацькамі, займаюцца ўдасканальваннем свайго характару, спасцігаюць патрэбу весці здаровы лад жыцця, асэнсоўваюць сваё сацыяльнае прызначэнне – быць жонкай, маці, вучацца асновам гаспадарання.

Кожнае лета для дзяўчынак–гайдаў жаданае не толькі таму, што яно нясе з сабой шмат чароўных задавальненняў, галоўнае з якіх – канікулы. Летам кожная дзяўчынка, якая з'яўляецца членам АБГ, мае магчымасць стаць самастойным, амаль дарослым чалавекам, часова пакінуць бацькоўскі дом, які ўсе будуць сніць амаль кожную ноч на не заўсёды ўтульным ложку, пабыць у сітуацыі, калі даводзіцца самой адказваць за свае ўчынкі. Дзяўчынкі пастаўленыя ў такія ўмовы, што кожная разумее: яна – асоба, яна – цікавая, . прыгожая, разумная.

Улетку–2000 праграма летніка мела назву: "Дзяўчынка, дзяўчына, жанчына ў свеце без насілля і агрэсіі".

Лепшае месца, чым Нарачанскі край, напэўна, цяжка сабе ўявіць. Гасцінна прыняла дзяўчынак–гайдаў Занарацкая СШ, яна стала агульным домам для вялікай дружнай сям'і з 70 дзяўчынак (45 дзяўчынак з Маладзечна і 25 з Жодзіна).

На працягу 18 ліпеньскіх дзён у летніку кіпела жыццё, мы будавалі "Дом без насілля і агрэсіі" для нас і нашых нашчадкаў, працаваў тэатр–дыскусія "Чалавек у масцы", які прапаноўваў для роздуму розныя чалавечыя лёсы. Патрэбна было бачыць, якія задуменныя вочы і заклапочаныя твары былі ў дзяўчынак, як сур'ёзна яны ставіліся да чалавечага жыцця і як спрабавалі даць амаль дарослыя парады тым, хто апынуўся ў бядзе (хаця ўсе разумелі, што ўсё гэта – толькі тэатральная гульня).

А якая дзяўчынка без рукадзелля? Працавалі майстэрні, дзе штосьці шылі, вышывалі, майстравалі, клеілі, размалёўвалі. У летніку панаваў добразычлівы дух супрацоўніцтва і сяброўства дарослых і дзяцей. Усе справы – разам, часам цяжка было адрозніць, дзе дарослыя, а дзе дзеці.

Не былі забытыя спорт і гульні, плаванне і танцы, дыскатэкі.

Як зачараваныя, сядзелі дзяўчынкі каля начнога кастра, які саграваў і настройваў на рамантычныя разважанні, цёмны лес абступаў і нашэптваў таямнічыя словы. Нікога не палохалі цемра і начны лес, бо побач былі дарослыя – лідэры. А з імі так спакойна і цікава.

У насценнай газеце "Летнік закончыўся: мне радасна, мне сумна..." дзяўчынкі намалявалі рамонак, які радасна ўздымае сваю кветку, у кожным пялёстку быў запіс, чаму радасна, а на пялёстках рамонка, які схіліў сваю галаву ў смутку, – чаму сумна.



Фота з архіва гайдаў.

**Звычайны сподак, міску ці кубак вылепіць з гліны няпроста. Падчас летняга знаходжання ў Англіі беларускія дзяўчаты ледзь не сталі ганчарамі.**

Усё, што пачынаецца, калі–небудзь заканчваецца. І таму галоўнае – разумець, што будуць новыя летнікі, новыя сустрэчы.

А 9 дзяўчынак–гайдаў (з Маладзечна, Вілейкі, Крупак) былі ўдзельнікамі летніка ў Англіі. Даўнія сувязі існуюць у нашага аб'яднання з гайдамі гэтай краіны, ужо не адзін раз мы абменьваліся групамі дзяцей, нашы англійскія сяброўкі былі ў нас (газета давала інфармацыю пра гэты візіт). Трое сутак дарогі праз Польшчу, Германію, Бельгію, Галандыю, Францыю не падаліся нам цяжкімі, калі мы ўбачылі радасныя твары нашых сяброў, якія сустракалі нас.

Быў цікавы і карысны летнік, дзе дзяўчынкі шмат што навучыліся рабіць рукамі, шмат экскурсій. Асноўны час дзеці правялі ў сем'ях англійскіх гайдаў. Мелі магчымасць пазнаёміцца з бытам і жыццём сучаснай англійскай сям'і, удасканаліць свае веды па англійскай мове, пазнаёміцца са шматлікімі гарадамі, наведаць своеасаблівыя англійскія паркі.

Ад'язджаючы, мы запрасілі сваіх сяброўак да нас у наступным годзе. Наступнае лета будзе напружанае і, безумоўна, цікавае.

**Жанна АНГЕРЧЫК,**
**каардынатар Асацыяцыі беларускіх гайдаў па Маладзечне,**
**член рэгіянальнага камітэта Мінскай вобласці.**

■ ШКОЛА

# Новая сістэма адзнак праходзіць апрабаванне

**МАЛАДЗЕЧНА. Савецкая школа традыцыйна мела пяцібальную сістэму ацэнкі ведаў. Незадаволеныя ёй ёсць і сярод вучняў, і сярод настаўнікаў. Нарэшце, Міністэрства адукацыі дало дазвол на апрабаванне новай сістэмы адзнак.**

У маладзечанскай СШ №6 праходзіць апрабацыю 10–бальная сістэма адзнак. Нулём у ёй пазначана поўная адсутнасць ведаў. Ад 1 да 4 балаў вар'іруецца былая "тройка", "чацвёрка" можа каштаваць ад 5 да 7 балаў, а выдатныя веды могуць набраць ад 8 да 10 балаў. У канцы чвэрці адзнакі будуць выстаўляцца, як і раней, са знакам "плюс" ці "мінус". Але, калі Мінадукацыі дасць дазвол, у наступным годзе на такую сістэму ацэнкі ведаў пяройдуць усе школы краіны.

У палітэхнікуме падчас экзаменаў эксперыментальна ўводзілася 7–бальная сістэма ведаў: 2; 2,5; 3; 3,5; 4; 4,5; 5 балаў. Як і 10–бальная, яна дазваляе больш дасканала ацаніць веды навучэнцаў. Таму падабаецца больш за звычайную і настаўнікам, і вучням.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

■ ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

# У Даўгінаве пабудавалі піваварню

**М. Даўгіново, Віленскай губ. Вілейскаго пав.**

Сёлета каля нас хапіліся купцы за семя, ешчэ і ня вымалочэна было, а ўжо купілялі наперад і давалі задаткі. Тымчасам цэна на семя ўпала, і некаторыя з мястэчкавых купцоў шмат далажылі да гэтага гандлю.

П'янства ў нас расце з году на год; ужо не хваціло прывознаго піва, дык цяпер пабудавалі ў нас і піваварню ў мястэчку. Той, хто будаваў піваварню, хочэ зрабіць конкурэнцыю віленскай і докшыцкай піваварням ды разбагацець на гэтым, і бадай што разбагацее, бо нашы селяне шчыра падтрымліваюць свой мястэчковы промысел, прапіваючы мала таго, што апошнія медзякі, але і апошняе зярно з аруду.

**В. Сос–кі.**

**Першая Беларуская Газэта з Рысункамі "Наша Ніва" №43 ад 28 кастрычніка 1910 г.**

**Кінатэатр «Радзіма» запрашае на кінафестываль (з 20 па 29 кастрычніка) «Лаўрэаты і намінанты прэміі «Оскар» 2000»**

Магчыма, не зусім зразумелая будзе для нас гратэскавая манера фільма "Магнолія" рэжысёра Пола Томаса Андэрсена. Але тэма фільма зразумелая і цікавая: пратэст супраць разбурэння чалавечых і сямейных сувязяў, пра збліжэнне людзей у пошуках чалавечай цеплыні. Фільму прысуджаны галоўны прыз Берлінскага кінафестывалю "Залаты Мядзведзь". За ролю другога плану Том Круз атрымаў прыз "Залаты глобус", намінаваўся на прэмію "Оскар".

Білеты прадаюцца за наяўны і безнаяўны разлік. Цана білета за 1 серыю 400 рублёў, за 2 серыі 800 рублёў.

**Кінатэатр «Радзіма»** **вялікая зала, кастрычнік**

27 **"Зялёная міля"**, ЗША, драма, 2 серыі, 20-00
**"Магнолія"**, ЗША, трылер, 2 серыі, 17-00
**"Смяротная справядлівасць"**, ЗША, баявік, 13-00, 15-00
28–29 **"Зялёная міля"**, ЗША, драма, 2 серыі, 17-00, 20-00
**"Смяротная справядлівасць"**, ЗША, баявік, 13-00, 15-00
31.10–05.11 **"Ганна і кароль"**, ЗША, меладрама, 2 серыі, 17-00
**"Код "Амега"**, ЗША, трылер, 13-00, 15-00, 19-30, 21-10

**Для дзяцей**

29 **"Прыгоды Бураціна"** 11-00

Кожную пятніцу, суботу і нядзелю – дыскатэка. Для школьнікаў – 17-00, для моладзі – 20-00.

У кінатэатры працуе бар, камп'ютэрныя гульні,

■ ПАМЯЦЬ

# Мемарыяльная дошка ў гонар настаўніка

**МАЛАДЗЕЧНА. У СШ №7 адкрытая мемарыяльная дошка ў гонар настаўніка хіміі Георгія Корсака, які працаваў у гэтай школе 37 год.**

Георгій Корсак быў выдатнікам адукацыі СССР, а пазней Беларусі. Ён напісаў некалькі метадычных распрацовак, якімі цяпер карыстаюцца настаўнікі хіміі ў нашай краіне, быў адным з аўтараў падручніка па хіміі. У многіх гарадах выкладчык дзяліўся сваім досведам.

Акрамя таго, ён цудоўна іграў на баяне і ў пачатку сваёй працы быў кіраўніком настаўніцкага хору. Вучні і калегі ўспамінаюць пра яго, як пра чалавека простага, патрабавальнага да сябе і да моладзі. Сваім вучням даў глыбокія веды, многія з іх працягваюць шлях настаўніка. Прыкладам, у СШ №7 працуе настаўніцай хіміі былая вучаніца Г. Корсака Наталля Пашчук.




Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Мемарыяльная дошка ў СШ №7.**

Адкрыццё дошкі было даручана дырэктару СШ №7 **Вользе Малярэвіч**. А вось вучні школы на ўрачыстасці, на жаль, не прысутнічалі. Калі ў першую змену ўрокі яшчэ былі, то другую адпусцілі па дамах.

**Кацярына РАМАНЧЫК,**
**Вера ГУЗОЎСКАЯ,**
**Анастасія ЛАЗІЦКАЯ,**
**гурток "Юны карэспандэнт" Цэнтра пазашкольнай работы, Маладзечна.**

■ ДНІ



**29 кастрычніка – Дзень аўтамабіліста.**
**30 кастрычніка – Дзень палітзняволеных** (Дзень памяці ўсіх ахвяр рэпрэсій).
**80 год з дня нараджэння** (1920) **Т. Барысавай** (па мужы Мудрогіна), беларускага тэатразнаўцы.
**1 лістапада – 75 год з дня нараджэння Клаўдзіі Каліны** (сапр. К. Капелян; 1925–1994), беларускай пісьменніцы.
**2 лістапада – Дзень памяці.**

# «Тэлеканал» у рэстаране

МЯДЗЕЛ. Заключнае раённае свята "тыдня маці" праходзіла ў рэстаране. За столікі запрасілі каля 70 матуль з усяго раёна. Сцэнарый свята складаўся з мясцовых версій разнастайных тэлеперадач. Не абышлося і без "Эх, Сямёнаўна!".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ДАТЫ

# Казка доўжыцца 15 год

МАЛАДЗЕЧНА. Тэатру лялек "Казка" цэнтра пазашкольнай работы спаўняецца 15. 9 лістапада адбудзецца спектакль "Наш церамок", ужо складзены сцэнарый, праходзяць рэпетыцыі. У спектаклі возьмуць удзел 18 чалавек.

У 1985 годзе адбылася прэм'ера першага спектакля пад назвай "Каласок". Цяпер гурток наведваюць 32 чалавекі. Былыя гуртkоўцы сталі медработнікамі, прадаўцамі, журналістамі, настаўнікамі.

**Іна МАЦЕЙКА.**

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

**Адказ на мінулае пытанне.** Праз адтуліны ў ліхтарах, каўпаках і да т. п. выходзіць цёплае паветра. У сярэдзіну, да крыніцы цяпла і імкнуцца насякомыя.

Блізкі да правільнага адказу быў **Юрый Юхневіч**, патрэбна было, кабён толькі ўдакладніў, пашырыў свой адказ. **Людміла Кендыш** адказала, напэўна, таксама правільна: яна сцвярджае, што вучоныя даказалі, нібы электрычны ток з'яўляецца свайго роду антэнай, на якую і ляцяць матылькі. Цяжка спрачацца, але, згадзіцеся, калі крыніцай святла будзе не электралямпачка, а, прыкладам, свечка, матылёк усё адно прыляціць на цяпло і згарыць. Так што электрычнасць тут не галоўны вызначальны фактар.

А пераможцамі прызнаныя **Марыя Васілеўская** і **Каця Спрынцына** з Маладзечна, якія далі "патрэбны" адказ. Тэлефануйце ў рэдакцыю і забірайце свае білеты – кастрычнік заканчваецца!

**Сёння ў конкурсе зноў усяго адно пытанне.** Яно, здаецца, нескладанае, таму калі пераможцаў будзе некалькі, уладальніка білета (ці двух) ў кіно назаве камп'ютэр, які вызначыць пэўны нумар удзельніка.

Бернард Шоў некалі сказаў: "Скульптары хаваюць недахопы сваёй работы пад зараснікамі плюшчу, урачы – пад зямлёй, а гаспадыні..." Паспрабуйце прадоўжыць фразу.

Пераможца атрымлівае запрашальны білет на 2 асобы на любы лістападаўскі кінасеанс у маладзечанскім кінатэатры "Радзіма". Адказы прымаюцца па тэлефоне 69667 па сераду (1 лістапада) уключна або пісьмова (паштовы штэмпель не пазней за 29 кастрычніка).

**Лявон ІНЕТНЫ.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ



## Суп рыбны з амлетам

**1,5 літра булёну з рыбных харчовых адходаў і гародніны, 500 г пачышчанай рыбы, 150 г смятаны, 2–3 памідоры, 2 лыжкі зялёнага гарошку, 2 яйкі, 1 лыжачка мукі, соль, перац, зеляніна пятрушкі, тлушч для смажання.**

З рыбных харчовых адходаў і гародніны зварыць булён. Рыбнае філе парэзаць кубікамі, заліць булёнам і варыць 15–20 хвілін, дадаць памідоры без скуркі, парэзаныя скрылькамі.

Яйкі ўзбіць з мукой, перамяшаць з зялёным гарошкам, пасаліць, дадаць нарэзаную зеляніну, выліць на гарачую патэльню з тлушчам. Калі амлет пачне гусцець, накрыць яго накрыўкай на 3–5 хвілін, каб ён падняўся. Ахалоджаны амлет парэзаць кубікамі. Перад падачай пакласці іх у суп, заправіць яго смятанай, усыпаць соль, перац.

## Гогаль-могаль

**2–3 яйкі, 100 г цукру, 3 шклянкі малака, 0,6 вішнёвага (фруктовага) соку, 50 г арэхаў, лімонная цэдра.**

Жаўткі расцерці з цукровай пудрай і лімоннай цэдрай у пышную масу, затым, не перастаючы ўзбіваць, дадаць малако, сок, перамяшаць з узбітымі бялкамі. Напітак разліць у высокія шклянкі, зверху пасыпаць сечанымі арэхамі.

## ВІНШАВАНКІ

Дарагую сяброўку **Вікторыю Рабец** віншую з 20-годдзем! Жадаю вялікага кахання, здзяйснення мараў, шчасця. *Наташа Паршута.*

Дарагая **Соф'я Забалуева**! Віншуем з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, даўгалецця, радасці. *Сям'я Язеўскіх.*

Віншуем **Артура Бучэля**! Жадаем здароўя, поспехаў у вучобе, радасці і ўдачы. *Мама, тата, Каця.*

Віншуем дарагую і любімую жонку і матулю **Тарэзу Чаславаўну Бакачэўскую**! Жадаем ёй здароўя, шчасця. *Муж Мікалай, дзеці Ірына і Ігар, зяць Алік.*

Любімая мама, бабуля **Валянціна Пятроўна Варпаховіч**!
Віншуем цябе з тваім 70-годдзем!
Спасибо, родная, что есть ты у нас,
Что видим и слышим тебя каждый час.
За добрую душу и теплое слово,
За то, что не видели в жизни плохого.
Спасибо тебе, наш родной человек,
Желаем здоровья на долгий твой век.
*Твае дзеці і ўнукі.*

Віншуем з днём нараджэння **Анатоля Мікалаевіча Вароніна**! Жадаем усяго лепшага. *Родныя і блізкія.*

**Ірачку Томкавіч** з днём нараджэння! Здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе і ва ўсім. *Мама, Аня.*

Віншуем **Любоў Дзмітрыеўну Чарнюкевіч** з днём анёла! Мамачка! Жадаем здароўя, кахання, поспеху. Будзь шчаслівая! *Хрысціна, Алеся.*

Дарагія **Насця і Лёня Трасцянкі**!
Віншуем вас з днём нараджэння!
Жадаем шчасця, здароўя,
удачы ва ўсім!
Пусть этот день запомнится надолго,
Запомнятся все теплые слова.
Большого счастья, крепкого здоровья
Желаем мы на долгие года.
*Вашы мама і тата.*

**Леаніда Мікалаевіча Свідуковіча**
віншуем у дзень юбілею!
Юбилей – это дата не старости.
Это опыт и мудрость, что дали года.
Пусть не чувствует сердце усталости,
И пусть будет душа молода!
*Ірына Фёдараўна, Лена, Саша, Таіса, Саша з Вілейкі.*

**Леаніду Мікалаевічу**!
Дарагі, любімы мой муж, віншую цябе з 45-годдзем!
Встречай день рожденья с улыбкой,
О том, что прошло, не грусти.
А тем, кто когда-то обидел,
Обиды всем сердцем прости.
Не трать свои нервы напрасно,
Здоровье не купишь нигде.
Пусть жизнь твоя будет прекрасной,
Я счастья желаю тебе.
*З любоўю жонка Галіна.*

Віншуем **Таню Гунько** з днём нараджэння! Ад усёй душы жадаем моцнага здароўя, шчасця, цудоўнага настрою!
Пожелать тебе хочется много,
Чтобы счастье свое ты нашла,
Чтоб была бы прямой та дорога,
По которой ты в жизни пошла.
*Тваe хросныя мама і тата.*

■ ХАВАИСЯ У БУЛЬБУ

## Вадалаз пакрыўдзіўся

Справа, кажуць, была на адной з баз Паўночнага Флоту. Так, па крайняй меры, сцвярджае былы падводнік, які пераехаў жыць у Маладзечна.

Ідзе ён неяк з работы разам са знаёмым вадалазам. Насустрач трапляецца яшчэ адзін знаёмы – мічман, які ганарліва выгульвае купленага для сям'і ў Петрапаўлаўску–Камчацкім (за немаленькія грошы) вялізнага чорнага сабаку. Спыніліся, разгаварыліся. Тузанула ж нешта вадалаза абсалютна бяскрыўдна запытацца ў мічмана:

– А вось сабака твой якой пароды?

– Вадалаз! – спакойна, без "задняй" думкі адказвае той.

А вось суразмоўца ягоны чамусьці пакрыўдзіўся:

– Трэба ж, а з выгляду – выкапаны мічман!

Пасля той сустрэчы яны яшчэ доўга адзін аднаго не віталі. Цяжка ўсё ж было вадалазу пра іншага вадалаза патлумачыць.

**Сямён РАБІНОВІЧ.**

■ ШКОЛА ЖЫЦЦЯ

**Падзяліцца з чытачамі "РГ" сваімі жыццёвымі хітрасцямі абавязаны кожны з вас.**

## Папулярныя міфы пра работу

Сёння працягнем размову пра работу. Як лепей сябе паводзіць на службе? Наконт гэтага існуе некалькі міфаў, рэальна нічым не падмацаваных.

**Адсутнасць з боку кіраўніцтва крытычных заўваг гаворыць пра тое, што вашай работай задаволеныя.** На самой справе, крытыка лепш за маўчанне. Наўрад ці вы зможаце паспяхова працаваць, калі дакладна не ведаеце, што ад вас чакаюць. Крытычныя ж заўвагі можна ўлічыць за арыенцір, і, такім чынам, удасканальваць метады сваёй дзейнасці. Інакш вы працуеце "навобмацак", для вас можа з'явіцца нечаканым "разнос" за неэфектыўныя метады работы ці нават звальненне. Тады будзе позна задаваць сабе пытанне "за што?!", так што лепш самі пацікаўцеся ў непасрэднага начальніка пра ягоную думку наконт вашай службовай дзейнасці.

**Частая змена работы шкодзіць рэпутацыі і замінае паспяховай кар'еры.** Сапраўды, у гады сацыялістычнага застою пераходы з аднаго месца работы на другое былі рэдкія. Для тых, хто не любіў заседжвацца на адным месцы, існаваў нават спецыяльны тэрмін – "летуны". Натуральна, пры ўсеагульным асуджэнні з'явы (хаця за што?) прымаць на работу "летуноў" жаданнем ніхто не гарэў.

Але часы змяніліся. Сёння работадаўцы больш насцярожана паставяцца да тых прэтэндэнтаў на вакантнае месца, хто апошнія год 10–15 працаваў на адным месцы, чым да тых, хто гэтыя месцы мяняў дастаткова часта (але і тут у межах разумнага, натуральна).

**Начальнік заўсёды мае рацыю.** Вядома, не мае сэнсу часта спрачацца з кіраўніцтвам. Аднак калі нешта ўводзіць яго ў зман, часам варта з ім пагадзіцца, але зрабіць па–свойму. Пераможцаў не судзяць. Аднак, заўважце, толькі пераможцаў. Акрамя іншага, вашыя тактоўныя заўвагі пакажуць, што для вас неабыякавыя справы фірмы.

Так што рабіце высновы. Рызыка і ініцыятыва штукі небяспечныя (помніце: ініцыятыва караецца!), аднак менавіта яны з'яўляюцца гарантыяй росту вашай кар'еры.

На гэтым усё. Ніколі не хвалюйцеся і не прыходзьце дахаты раней тэрміну.

**Лявон ІНЕТНЫ.**

## ЗНАЁМСТВЫ

Прыемная ўдава, 44 гады, без шк/зв. і жаллёвых праблем, пазнаёміцца з гаспадарлівым чалавекам. Маладзечна-7, п/п МС0505502.

Пазнаёмлюся з самастойным мужчынам для стварэння сям'і. Пра сябе Маладзечна-6, п/п ІІІ-ВН №609356.

■ НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

**27 кастрычніка – Параскева** – заступніца сялянак.
**29 кастрычніка – Лонгін.** Святому Лонгіну маліліся хворыя на вочы, бо ён лічыўся ў народзе лекарам такіх хвароб.
**2 лістапада – Дзень памяці** (Дзяды).

■ ПРОСТА АНЕКДОТ

Маладзечна. Піўная "кропка". Да прылаўка падыходзіць мужык:

– Піва ёсць?

– Піва няма, – адказвае прадаўшчыца.

– ПІВА (з выдзяленнем менавіта гэтага слова) няма? – здзіўляецца мужык і ідзе прэч.

На наступны дзень той самы мужык, тая самая піўнуха.

– Піва ёсць?

– Піва няма.

– ПІВА няма? – мужык ізноў заварочваецца і выходзіць.

Яшчэ праз дзень.

– Піва ёсць?

– Піва ёсць.

– ПІВА ёсць? – здзіўляецца мужык і ідзе прэч.

